ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ
ЛІСТАПАД, **2011**
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**Заява сяброў праваабарончага цэнтру "Вясна" з нагоды прысуду**
СТАР. 2

**Гамельчукі збіраюць подпісы супраць смяротнага пакарання**
СТАР. 4

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

## прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму



Такое рашэнне абвясціў 24 лістапада суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Сяргей Бандарэнка.

**Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра "Вясна" прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.**

Бяляцкі прызнаны вінаватым на падставе часткі 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса (утойванне даходаў у асабліва буйным памеры). Суд палічыў віну праваабаронцы даказанай. Высновы падсуднага пра тое, што сродкі, якія пералічваліся на банкаўскія рахункі Бяляцкага ў Літве і Польшчы, не з'яўляліся яго асабістым даходам, суд палічыў неабгрунтаванымі. У рашэнні суда сказана, што Бяляцкі наўмысна, з мэтай ухілення ад выплаты падаткаў, не ўказваў сродкі, якія паступалі на яго рахункі.

Нагадаем, абвінавачанне ў асобе пракурора Уладзіміра Сайкоўскага прасіла суд прыгаварыць праваабаронцу да пяці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Абарона прасіла суд вынесці Бяляцкаму апраўдальны прыгавор.

На абвяшчэнне прыгавору Бяляцкаму ў суд прыйшлі прыкладна 100 чалавек, у тым ліку праваабаронцы, палітычныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса Літвы, Польшчы, Германіі, ЗША, Францыі. У зале суда было вельмі шмат прадстаўнікоў СМІ.

Падчас зачытвання суддзёй прыгавору праваабаронца Таццяна Равяка ўзняла плакат з фатаграфіяй Алеся Бяляцкага з надпісам "Свабоду Бяляцкаму".
Калі пракурор выйшаў з залы суда пасля вынясення прысуду, людзі, якія стаялі ў калідоры, пачалі апладзіраваць і выкрыкваць "Ганьба!" і "Слава герою!". Адвярнуўшыся ад іх, Сайкоўскі паспешліва накіраваўся да лесвіцы на другі паверх.

Пасля прыгавору адвакат Бяляцкага Дзмітрый Лаеўскі паведаміў журналістам, што будзе абскарджваць рашэнне суда.

Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня. Падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала інфармацыя пра яго рахункі ў замежных банках, перададзеная беларускім уладам Мінюстам Літвы і Генпракуратурай Польшчы ў межах дагавораў аб прававой дапамозе.

Пасля арышту праваабаронцы ўлады Літвы і Польшчы публічна папрасілі прабачэння ў Бяляцкага і яго сям'і, а таксама прыпынілі кантакты з Беларуссю ў межах дагавораў аб прававой дапамозе, заявіўшы, што беларускія ўлады выкарыстоўваюць прававое супрацоўніцтва для расправы са сваімі апанентамі.

Падчас суда Бяляцкі растлумачыў, што адкрыў банкаўскія рахункі за мяжой, бо зрабіць гэта ў Беларусі не ўяўлялася магчымым. Праваабарончы цэнтр "Вясна", які ён узначальвае, быў закрыты ўладамі ў 2003 годзе, а на шматлікія спробы праваабаронцаў легалізаваць сваю арганізацыю Мінюст адказваў адмоўна. Грошы, што пералічваліся на рахункі Бяляцкага, выкарыстоўваліся для аказання дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій у Беларусі.

"З 1996 года мы дапамаглі тысячам людзей", - заявіў праваабаронца, выступаючы з апошнім словам у судзе.

(працяг на 2 стр.)

# ПРЫСУД АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ: ПРАЦЯГ ТЭМЫ

**(Пачатак на 1-й стар.)** Улады Беларусі не даюць развівацца грамадзянскай супольнасці, не церпяць крытыкі на свой адрас, сказаў Бяляцкі. "Дзеянні ўладаў супярэчаць як Канстытуцыі, гэтак і заключаным міжнародным пагадненням", падкрэсліў ён. Паводле слоў Бяляцкага, стаўленне да праваабаронцаў з'яўляецца лакмусавай паперай, якая вызначае дэмакратычнасць грамадства

Падсудны падкрэсліў, што будзе працягваць займацца праваабарончай дзейнасцю "у турме ці на волі".

Міжнародная дэмакратычная грамадскасць лічыць крымінальны пераслед Бяляцкага палітычна матываваным і патрабуе ад беларускіх уладаў яго безумоўнага вызвалення.
Напярэдадні вынясення прыгавору, 23 лістапада, вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па замежных справах і пытаннях палітыкі бяспекі Кэтрын Эштан і камісар ЕС па пытаннях пашырэння і еўрапейскай палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле выступілі з сумеснай заявай, у якой заклікалі беларускія ўлады неадкладна і безагаворачна вызваліць Алеся Бяляцкага.

"Па сутнасці судовы працэс, які ідзе зараз, гэта самае прыкметнае і сімвалічнае праяўленне задушэння грамадзянскай супольнасці ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года", гаворыцца ў заяве кіраўнікоў ЕС.

Сяргей Пульша, БелаПАН

## *Заява сяброў Праваабрончага цэнтру “Вясна” з нагоды прысуду Алесю Бяляцкаму*



*Сёння, 24 лістапада 2011 г. суддзей суда Першамайскага раёна г. Мінска Сяргеем Бандарэнкам вынесены прысуд нашаму калегу -- старшыні Праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнту FIDH Алесю Бяляцкаму. Праваабаронца прызнаны вінаватым ў быццам бы здзейсненым злачынстве, прадугледжаным ч.2 артыкула 243 КК Рэспублікі Беларусь -- “ухіленне ад выплаты сум падаткаў у асабліва буйным памеры”. Суд прыгаварыў Алеся Бяляцкага да 4 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі.*

*Мы, сябры Праваабарончага цэнтра “Вясна”, ацэньваем прысуд як расправу над нашым калегам, помсту за ягоную шматгадовую праваабарончую дзейнасць, а таксама як імкненне знішчыць нашу арганізацыю і запалохаць увесь праваабарончы рух Беларусі.*

*З самога пачатку затрымання Алеся Бяляцкага 4 жніўня гэтага года з боку следства мелі месца грубейшыя парушэнні заканадаўства Беларусі. Так, незаконна ў дачыненні да Алеся Бяляцкага была ўжыта мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. Следства, не імкнучыся да ўстанаўлення ісціны па справе, адмовілася звярнуцца да фундацыяў, якія пералічвалі сродкі Алесю Бяляцкаму, з запытам аб іх мэтавым прызначэнні, ігнаруючы адпаведнае прадпісанне з боку пракуратуры.*

*Падчас судовага працэсу стала відавочна, што ў абвінаваўцы ўвогуле адсутнічаюць нават ускосныя доказы віны Алеся Бяляцкага ў здзяйсненні злачынства, за якое ён асуджаны. У судзе так і не знайшоў свайго падцверджэння сам факт атрымання сродкаў, недапушчальнымі доказамі з'яўляюцца і матэрыялы афіцыйных органаў Літвы і Польшчы, паколькі яны не былі належным чынам афармленыя.*

*Матэрыялы, якія былі агучаны ў судзе, сведчаць, што ў дачыненні да Алеся Бяляцкага і іншых сяброў Праваабарончага цэнтру “Вясна”, пачынаючы з кастрычніка 2010 г., вяліся незаконыя аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, ініцыяваныя КДБ Беларусі.*

*Факты, якія сталі вядомымі падчас судовага разбіральніцтва, засведчылі тое, што сапраўдным матывам абвінаваўчага прысуду Алеся Бяляцкага з'яўляецца пакаранне яго за актыўную і прынцыповую праваабарончую дзейнасць. Сённяшні прысуд нашаму калегу -- вынік той шматгадовай рэпрэсіўнай палітыкі ўладаў Беларусі ў дачыненні да праваабарончых арганізацый: выпіхванне з прававога поля праз пазбаўленне афіцыйнага статусу, адмовы ў рэгістрацыі па надуманных прычынах новых аб'яднанняў, крыміналізацыю дзейнасці незарэгістраваных арганізацый, стварэнне перашкодаў і ціск з боку КДБ і іншых спецслужбаў. Пакаранне Алесю Бяляцкаму гэта рэакцыя ўладаў на цвёрдую і паслядоўную пазіцыю ўсіх праваабаронцаў Беларусі па ацэнцы сітуацыі з правамі чалавека ў краіне.*

*Мы пераканаты, што прысуд Алесю Бяляцкаму носіць выключна незаконы характар і таму падлягае безумоўнай адмене.*

*Праваабарончы цэнтр “Вясна” выказвае ўдзячнасць усім грамадзянам, праваабаронцам, палітыкам, урадам і парламентам розных краінаў, якія выказалі рашучы пратэст незаконаму пераследу Алеся Бяляцкага і беларускіх праваабаронцаў*
*Са свайго боку мы заяўляем, што Праваабарончы цэнтр “Вясна” працягне сваю праваабарончую дзейнасць, бо гэта наш абавязак перад усім грамадствам Беларусі, якое церпіць ад масавых парушэнняў правоў.*
*СВАБОДУ АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ!*
*СВАБОДУ УСІМ БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗНЯМ!*

Spring96.org

# Заява сябраў Савета пры Прэзідэнце РФ аб прысудзе Алесю Бяляцкаму

У Беларусі кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі асуджаны судом першай інстанцыі да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі за нясплату падаткаў са свайго асабістага рахунку ў замежных банках.
Па наяўных звестках атрыманыя ім сродкі былі цалкам патрачаны на праваабарончую дзейнасць, уключаючы дапамогу палітвязням і іх сем'ям.
Сапраўдная прычына гэтай крымінальнай справы палітычныя матывы ўладаў Беларусі, якія спрабуюць ўжо шмат гадоў пазбавіць незалежныя ад іх грамадскія арганізацыі магчымасці дзейнічаць легальна. Іх пад рознымі падставамі пазбаўляюць рэгістрацыі, а дзейнасць незарэгістраваных арганізацый разглядаюць як крымінальнае злачынства. Пры гэтым ахвяраванні з-за мяжы дапускаюцца, згодна з дэкрэтам Прэзідэнта Лукашэнкі, толькі з яго асабістага дазволу.



Створаная такім чынам патавая прававая сітуацыя выключае для шэрагу асацыяцый грамадзян магчымасць легальна атрымліваць фінансавую падтрымку звонку, з прычыны чаго іх лідэраў судзяць за спробу вырашыць гэтую калізію.
Мы лічым, што Савет павінен далучыцца да патрабавання міжнародных, расійскіх і беларускіх няўрадавых арганізацый адмяніць вынесены Алесю Бяляцкаму жорсткі і несправядлівы прысуд, неадкладна вызваліўшы яго з-пад варты.
Лічым, што толькі так судовая і выканаўчая ўлады Рэспублікі Беларусь могуць прадэманстраваць гатоўнасць сваёй краіны увайсці ў цывілізаваную супольнасць дзяржаў, дзе забяспечаны права грамадзян на асацыяцыі і гарантыі публічнай і мірнай дзейнасці.



**Упаўнаважаны па правах чалавека ўраду Нямеччыны Маркус Ленінг патрабуе вызваленьня беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.** “Я рэзка асуджаю вырак, вынесены Алесю Бяляцкаму, і патрабую яго неадкладнага вызваленьня, адзначае Ленінг у сваёй заяве. Няцяжка здагадацца, што такім чынам беларускія ўлады, прыбягаючы да надуманага крымінальнага абвінавачаньня, спрабуюць прымусіць маўчаць актыўнага праваабаронцу. Гэта нізкі, нічым не апраўданы ўчынак". Ленінг падкрэсьліў, што таксама патрабуе вызваленьня і рэабілітацыі ўсіх палітзьняволеных у Беларусі і спыненьня рэпрэсіяў у адносінах да апазыцыйных няўрадавых арганізацый і іх актывістаў.

**Афіцыйны Парыж шакаваны прысудам беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму і зноў заклікае неадкладна яго вызваліць.** Пра гэта заявіў прадстаўнік МЗС Францыі Бэрнар Валеро. «Францыя шакаваная рашэньнем асудзіць Алеся Бяляцкага да 4,5 гадоў турмы паводле чыста палітычных матываў у выніку несправядлівага разьбіральніцтва», -- сказаў Валеро на брыфінгу ў чацьвер. Паводле яго словаў, французскі бок шкадуе, што ўлады РБ засталіся глухія да заклікаў вызваліць Бяляцкага і іншых палітзьняволеных, паведамляюць РИА-Новости.



# Amnesty International:
## Мы шакаваныя прысудам Бяляцкаму

Дэвід Нікалс, прадстаўнік міжнароднай праваабарончай арганізацыі Amnesty International пры Эўразьвязе, сказаў у сувязі з прысудам беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму:

«Мы шакаваныя сёньняшнім прысудам, вынесеным Алесю Бяляцкаму. Мы заклікаем Эўразьвяз і ўсіх іншых неадкладна асудзіць гэты прысуд самым рашучым чынам.

Алесь Бяляцкі зьяўляецца вязьнем сумленьня ў Беларусі, і беларускія ўлады павінны вызваліць яго неадкладна».

# Рада Эўропы асуджае прысуд Алесю Бяляцкаму

Пра гэта гаворыцца ў заяве генэральнага сакратара арганізацыі Трубьерна Ягланда.
«Я рашуча асуджаю суровы прысуд праваабаронцу Алесю Бяляцкаму, вынесены нібыта за ўхіленьне ад выплаты падаткаў сказаў Ягланд. Стаўленьне да Бяляцкага зьяўляецца яркім прыкладам перасьледу ўладамі арганізацый грамадзянскай супольнасьці».

# Стэфановічу прызначылі два суды на 2 сьнежня



Партызанскі суд Менску пачаў разгляд скаргі намесьніка старшыні праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянціна Стэфановіча адносна штрафу, вынесенага яму падатковай інспэкцыяй Партызанскага раёну. Суд перанёс разгляд скаргі на 2 сьнежня.

Інспэкцыя па падатках і зборах Партызанскага раёну Менску 19 кастрычніка аштрафавала Стэфановіча на 4 мільёны 750 тысяч рублёў. Ён быў прызнаны вінаватым у праваапрушэньні па адміністрацыйным артыкуле 13.6 (нявыплата ці няпоўная выплата падаткаў). Стэфановіч адзначыў, што перанос разгляду скаргі зроблены зь незразумелых яму прычын. 2 сьнежня ў гэтым жа судзе а 10 гадзіне, толькі ў іншага судзьдзі, будзе слухацца пазоў падатковай інспэкцыі аб спагнаньні з праваабаронцы падаткаў і пені. А ў 11.30 прызначаны працяг разгляду яго скаргі на пастанову аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці, вынесеную падатковай інспэкцыяй Партызанскага раёну.

"Я мяркую, што суд вырашыў сабе спрасьціць жыцьцё. І калі першы працэс пастановіць спагнаць зь мяне гэтую суму, то, у прынцыпе, другі можа спаслацца на гэтае рашэньне. Але я матыву не пачуў, чаму сёньня нельга было справу па сутнасьці разгледзець да канца. Прысутнічалі адразу тры прадстаўнікі падатковай інспэкцыі, якія прадстаўлялі орган, які вынес пастанову аб правапарушэньні. У якасьці менавіта прадстаўніка гэтага органа, што ў мяне выклікае вялікія сумневы адносна таго, ці маглі яны там прысутнічаць. Гэта быў статус прадстаўнікоў гэтага органа, яны не былі сьведкамі. Усе трое яны прысутнічалі ў залі, дапаўнялі адзін аднаго, мелі стасункі паміж сабой падчас працэсу. Я на гэта ўказаў суду. Але мае заўвагі не былі прынятыя да ведама.

Цяпер яны цьвердзяць, што не давалі мне на подпіс блянк пастановы, што гэта ўсяго толькі быў праект, які я ўбачыў на стале. Таму я зрабіў адпаведны запіс у пратаколе. Гэты праект ня меў юрыдычнай сілы. Хаця мне гэты "праект" прадстаўляўся пад подпіс. І я мяркую, што пастанова была фактычна вынесена загадзя  у якой не адлюстраваны ні мае тлумачэньні, ні што іншае. Таму такая пастанова павінна быць адмененая. Пасьля сёньняшняга паседжаньня, мяркую, падзеі будуць разгортвацца інакш. Я ня меў ілюзіяў адносна таго, чым скончацца гэтыя справы. Аднак я буду абскарджваць гэтыя рашэньні ў касацыйных інстанцыях"

Стэфановіч не прызнае сябе вінаватым і абскарджвае пастанову падатковай інспэкцыі ў судзе. 19 кастрычніка ён заявіў:

"Якім чынам яны вызначылі маю форму віны, калі я яшчэ не даваў ніякіх тлумачэньняў па гэтай справе? Потым, калі мне пратакол быў прад'яўлены для азнаямленьня, намесьніца начальніка аддзелу Алена Кутнік мне прапанавала падпісацца на пастанове, ужо вынесенай па маёй справе, дзе мяне прапаноўвалася пакараць 15% ад сумы падатку, якая падлягае спагнаньню, што я азнаёмлены з матэрыяламі справы. Я сказаў: пачакайце, справа яшчэ не разглядалася, а вы ўжо пастанову напісалі. Яна кажа  гэта яшчэ праект. Але яны мне прапануюць расьпісацца!"

**Алесь Дашчынскі**

# Гамельчукі далучыліся да збору подпісаў пад петыцыяй супраць смяротнага пакарання Канавалава і Кавалёва

У сацыяльнай сетцы "Укантакце" створаная адмысловая старонка. Старонка мае 451 удзельніка, трацiна з якіх падпісалася пад хадайніцтвам аб выратаванні жыццяў Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава. Абодва маладзёны з'яўляюцца галоўнымі фігурантамі справы аб выбуху ў мінскім метро 11 красавіка.

Арганізатар старонкі - жыхар Гомеля Яўген Якавенка  просіць удзельнікаў распаўсюдзіць інфармацыю пра збор подпісаў сярод знаёмых. Ініцыятыва працягнецца да 30 лістапада. У гэты дзень будзе вынесены прысуд падазраваным у справе тэракту. Пракурор запатрабаваў смяротнай кары Кавалёву і Канавалаву.
"Калі ласка, падпішыце гэтае хадайніцтва і папрасіце сваіх сяброў, каб мы ўсе маглі выратаваць гэтыя жыцці", -- гаворыцца ў тэксце петыцыі. Дакумент скіраваны на адрас ААН і праваабарончай арганізацыі Human Rights Watch.



**Радыё Рацыя**